
DARK HORSE COMICS
#1 | $3.50
LUCAS BOOKS
OSTRANDER
DUURSEMA
PARSONS
STAR WARS
DAWN OF THE JEDI: FORCE STORM
DIRECT SALES
THIS IS THE BEGINNING OF A NEW AGE!
BY COMICS



НАША ГІСТОРЫЯ ПАЧЫНАЕЦЦА ВЕЛЬНІ ДАЎНО НА ДАЛЁКІХ ПЛАНЕТАХ... ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ГАДОЎ НАЗАД.
ЦЭЛАЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ НА ПЛАНЕЦЕ АНДО-ПРАЙМ ДАІ-БЕНДУ ЗДЗЯЙСНЯЛІ ПАЛОМНІЦТВА ВЫСОКА Ў ЗАСНЕЖАНЫЯ ГОРЫ АНДОБІ, ДА ВЕЛІЧНАГА ЗБУДАВАННЯ, ЯКОЕ ЯНЫ ЗВАЛІ ТО ЁР.
МАНАХІ ВЕДАЛІ, ШТО ТО ЁР НЕ З ІХ ПЛАНЕТЫ. ЯНЫ АДЧУВАЛІ, ШТО ЎНУТРЫ ЧАКАЮЦЬ СВАЙГО ЧАСУ ВЯЛІКІЯ ТАЙНЫ.
ТАМУ ДАІ-БЕНДУ ЧАКАЛІ. ЯНЫ МЕДЫТАВАЛІ, ПРЫСЛУХОЎВАЮЧЫСЯ ДА СЭРЦА, РОЗУМУ І ПАЧУЦЦЯЎ.
І АДНОЙЧЫ ТО ЁР ЗАГУТАРЫЎ.
ДЗЕДА! ЧУЕШ?
ТАК. ТО ЁР КЛІЧА НАС.


ЯНЫ ПАЧУЛІ КЛІЧ У СВАІХ СЭРЦАХ, У СВАЁЙ СВЯДОМАСЦІ.
ГОЛАС, РАЗМАЎЛЯЎШЫ НЕ СЛОВАМІ, УЗНІК Ў ЦІШЫНІ, КАЛІ ЎСЁ БЫЛО Ў РАЎНАВАЗЕ.
ЗАПРАШЭННЕ.


У ДАІ-БЕНДУ НЕ БЫЛО СУМНЕВАЎ. ІХ ЧАС ПРЫЙШОЎ. ЧАС, ДА ЯКОГА ЯНЫ РЫХТАВАЛІСЯ.
ВЯШЧУНСТВА СПРАЎДЗІЛАСЯ.
ДЛЯ ВЫКАНАННЯ ВЯШЧУНСТВА ДАІ-БЕНДУ ВАЙШЛІ Ў ТО ЁР...
...І ЗДАБЫЛІ АДКРЫЦЦЁ.


ТОЕ Ж САМАЕ АДБЫЛАСЯ НА ІНШЫХ ЧАСТКАХ ГАЛАКТЫКІ, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЛІСЯ ЯШЧЭ СЕМ ТО ЁРАЎ. НА КАШЫІКІ ВОЙНЫ-ВУКІ, ЯКІЯ АБАРАНЯЛІ ТАЯМНІЧУЮ ПІРАМІДУ, ПАЧУЎШЫ КЛІЧ...
...І ЗДАБЫЛІ ЛАД.
НА ДАТАМІРЫ ШАМАНЫ І ПРАЗОРЦЫ ЎБАЧЫЛІ ТО ЁР У СНАХ І БАЧАННЯХ. ТО ЁР ПЕЎ ІМ.
ЯНЫ РУШЫЛІ ЎСЛЕД ЗА ПЕСНЯЙ І ЗДАБЫЛІ ГАРМОНІЮ.


НА РЫЛОЦЕ ФІЛОСАФЫ-ТВІ'ЛЕКІ, ЯКІЯ СПРАЧАЛІСЯ АБ КРЫНІЦЫ ТАЯМНІЧАЙ ЭНЕРГІІ, ЯКУЮ ЯНЫ АДЧУВАЛІ ВАКОЛ, ПАЧУЛІ КЛІЧ ТО ЁРА, ПАКІНУЛІ СВАЕ ПЯЧОРЫ І АДПРАВІЛІСЯ Ў ПУСТЭЛЬНЮ.
НА ЎЗРОЎНІ ПАЧУЦЦЯЎ ЯНЫ ВЕДАЛІ, ШТО АДКАЗЫ ТРЭБА ШУКАЦЬ ЗА МЕЖАМІ ЗВЫКЛАГА ІМ СВЕТУ.
ЯНЫ ЎВАЙШЛІ Ў ТО ЁР І ЗДАБЫЛІ ПРАСВЯТЛЕННЕ.
НА МАНААНЕ НАВУКОЎЦЫ СЕЛКАТАЎ СПЫНІЛІ ПРАЦУ, КАЛІ ДЗВЕРЫ ВЯЛІКАГА ТО ЁРА РАСЧЫНІЛІСЯ.
ЯНЫ ВАЙШЛІ І ЗДАБЫЛІ МУДРАСЦЬ.



ВОСЕМ ТО ЁРАЎ НАВЕДАЛІ МНОСТВА СВЕТАЎ, ЗБІРАЮЧЫ РАЗУМОВЫХ ІСТОТ, ЯКІЯ ЧУЛІ ІХ КЛІЧ. ПОТЫМ ЯНЫ РУШЫЛІ ДА ЦЭНТРА ГАЛАКТЫКІ.
У ГЛЫБОКІМ ЯДРЭ, ДЗЕ З-ЗА ЦЁМНАЙ МАТЭРЫІ СУТЫКАЮЦЦА ЗОРКІ, А ПРАСТОРА ПЕРАКРЫЎЛЯЕЦЦА ВОКАМГНЕННА, ТО ЁРЫ ПРАЙШЛІ ЗВІЛІСТЫМ ШЛЯХАМ МІМА ЗОРАК І ЧОРНЫХ ДЗЮР...
...НАКІРОЎВАЮ-ЧЫСЯ ДА СВАЁЙ МЭТЫ...
...ПЛАНЕЦЕ ТАЙТОН, ДЗЕ КАРАБЛІ САБРАЛІСЯ ВАКОЛ ДЗЯВЯТАГА, САМАГА ВЯЛІКАГА ТО ЁРА. ПЛАНЕТА СУСТРЭЛА ІХ ЛЮТЫМІ ЎРАГАНАМІ.
НА ГЭТАЙ ПЛАНЕЦЕ ВАНДРОЎЦЫ АДЧУЛІ ЭНЕРГІЮ, ЯКАЯ АТАЧАЛА ІХ. ТУЮ САМУЮ ТАЯМНІЧУЮ ПЕРШАПАЧАТКОВУЮ ЭНЕРГІЮ – СІЛУ, ЯКАЯ ПАКЛІКАЛА ІХ ДА ТО ЁРАЎ.
У ТОЙ ДЗЕНЬ ВАНДРОЎЦЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ Ў СІЛЕ.
ТО ЁРЫ ПАКІНУЛІ ЦЭНТРАЛЬНУЮ ПІРАМІДУ, КАБ АДВЕЗЦІ ВАНДРОЎЦАЎ У ІХ НОВЫЯ МЕСЦАЗНАХОДЖАННІ Ў ГЭТЫМ НЕЗНАЁМЫМ СВЕЦЕ. АБ'ЯДНАЎШЫСЯ Ў СІЛЕ, ПРЫШЭЛЬЦЫ З САМЫХ РОЗНЫХ І АДДАЛЕНЫХ ПЛАНЕТ СТАЛІ АДЗІНЫМ НАРОДАМ. ЯНЫ СТАЛІ ТАЙТОНЦАМІ.


ВЕЛЬМІ ХУТКА ТАЙТОНЦЫ ЗРАЗУМЕЛІ, З ЯКОЙ МЭТАЙ ІХ САБРАЛІ. ЯНЫ ПАВІННЫ БЫЛІ ВЫВУЧЫЦЬ СІЛУ І АВАЛОДАЦЬ ЗДОЛЬНАСЦЯМІ, ЯКІЯ ЯНА ДАВАЛА.
АДНАК ДЛЯ ПРАЎДЗІВАГА СПАЗНАННЯ СІЛЫ БЫЛО НЕДАСТАТКОВА ПАГРУЗІЦЦА Ў СЯБЕ І РАЗВАЖАЦЬ У ЦІШЫНІ. ІХ ЖЫЦЦЁ СТАЛА МЕДЫТАЦЫЯЙ У РУХУ – КАЛІ СІЛА ВЫЯЎЛЯЕЦЦА ЗНУТРЫ.
ВЫВУЧАЮЧЫ НАВАКОЛЬНЫ СВЕТ, ЯНЫ ЎБАЧЫЛІ НА НЕБЕ ДВА МЕСЯЦЫ – СВЕТЛУЮ АШЛУ І ЦЁМНЫ БОГАН. ЯНЫ ЗРАЗУМЕЛІ, ШТО СІЛА МАЕ ДВА БАКІ – СВЕТЛУЮ І ЦЁМНУЮ.
СВЯТЛО АКРЭСЛІВАЛА МЕЖЫ ЦЕМРЫ, А ЦЕМРА – МЕЖЫ СВЯТЛА. КАЛІ РАЎНАВАГА ПАРУШАЛАСЯ, ТАЙТОН АДКЛІКАЎСЯ БУРАМІ І ЗЕМЛЯТРУСАМІ.
ТАМУ ПРЫШЭЛЬЦЫ ЗАДАЛІСЯ МЭТАЙ ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЛІСЯ ДА РАЎНАВАГІ. ЯНЫ СТАЛІ ЗВАЦЦА "ДЖЭ'ДАЙЯМІ". ГЭТЫ ТЭРМІН З МОВЫ ДАІ-БЕНДУ АЗНАЧАЕ "МІСТЫЧНЫ ЦЭНТР".
ТОЛЬКІ З ДАПАМОГАЙ ГАРМОНІІ РАЎНАВАГІ ДЖЭ'ДАІ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ СУПАКОЙ НА ПЛАНЕЦЕ.


ЗА ТЫСЯЧУ ГАДОЎ ДЖЭ'ДАЙІ СТВАРЫЛІ ВЯЛІКУЮ ЦЫВІЛІЗАЦЫЮ. ВАКОЛ КОЖНАГА З ТО ЁРАЎ ЯНЫ ЎЗВЯЛІ ХРАМЫ, ГАРАДЫ, АКАДЭМІІ І ЗДРАЎНІЦЫ.
АЛЕ НЕ ЎСЕ НАШЧАДКІ ДЖЭ'ДАЙІ МАГЛІ СТАЦЬ ДЖЭ'ДАЙІ. ТЫЯ, ХТО АД НАРАДЖЭННЯ БЫЎ НЕ ЗДОЛЬНЫ АДЧУВАЦЬ СІЛУ, БЫЛІ ВА ЎЛАДЫ ПЛАНЕТЫ. НАВАТ ДЖЭ'ДАЙІ НЕ ЗАЎСЁДЫ МАГЛІ ІХ АБАРАНІЦЬ.
І КАЛІ БЫЎ РАЗБУРАНЫ ГОРАД АЎРУМ, СТАЛА ЯСНА, ШТО ТАЙТОН ЗАНАДТА НЕБЯСПЕЧНЫ ДЛЯ ТЫХ, ХТО НЕ ВАЛОДАЕ СІЛАЙ.
ТАК, У ДРУГІМ ТЫСЯЧАГОДДЗІ ПАЧАЛАСЯ ДРУГАЯ ХВАЛЯ КАЛАНІЗАЦЫІ.
ТАЙТОНЦЫ, ЯКІЯ НЕ БЫЛІ ДЖЭ'ДАЙІ, ПАКІНУЛІ ТАЙТОН І ПЕРАБРАЛІСЯ СПАЧАТКУ НА МЕСЯЦЫ – АШЛУ І БОГАН – А ЗАТЫМ АДПРАВІЛІСЯ ДАЛЕЙ, ЗАСЯЛЯЦЬ ІНШЫЯ СВЕТЫ СІСТЭМЫ.
ГЭТА БЫЎ ЧАС ЖУДАСНАЙ ПАТРЭБЫ І ВЯЛІКАГА ГОРА. ПЕРАСЯЛЕННЕ РАЗЛУЧАЛА СЕМ'І, ЧАСТА ПАКІДАЮЧЫ НЕЗАГОЙНЫЯ РАНЫ.



УСІХ, ХТО НАРАДЖАЎСЯ СА ЗДОЛЬНАСЦЮ АДЧУВАЦЬ СІЛУ, АДПРАЎЛЯЛІ НАЗАД НА ТАЙТОН.
ТАМ ЮНЫ ДЖЭ'ДАЙІ ПРАХОДЗІЎ НАВУЧАННЕ, СТАНОВЯЧЫСЯ ПА ЧАРЗЕ ПАДАВАНОМ, ВАНДРОЎЦАМ, СЛЕДАПЫТАМ І, НАРЭШЦЕ, МАЙСТРАМ.
ПАДАРОЖНІЧАЮЧЫ АД ХРАМА ДА ХРАМА, АТРЫМЛІВАЮЧЫ ВЕДЫ, ЗНАХОДЗЯЧЫ РАЎНАВАГУ Ў СІЛЕ. ЯГО КРЭДА – ПАСЛАННЕ СВЕТУ.
НЯМА НЕВУЦТВА – ЁСЦЬ ВЕДЫ; НЯМА СТРАХУ – ЁСЦЬ МАГУТНАСЦЬ.
Я – СЭРЦА СІЛЫ; Я – ПУЦЯВОДНЫ АГОНЬ СВЯТЛА; Я – ТАЕМСТВА ЦЕМРЫ. У РАЎНАВАЗЕ ПАМІЖ ХАОСАМ І ГАРМОНІЯЙ...
...БЕССМЫРОТНЫ Ў СІЛЕ.



З ТАЙТОНА НАШЧАДКІ ДЖЭ'ДАЙІ РАССЯЛІЛІСЯ ПА ЎСЁЙ СІСТЭМЕ. РУХАЮЧЫСЯ ДА СВЯЦІЛА, ЯНЫ АСВОІЛІ СОНЕЧНУЮ ПЛЯМУ І МАЛЬТЭРУ, НОКС І ПУСТЭЛЬНЫХ КРЭЎ КЕР.
ЗА АРБІТАЙ ТАЙТОНА ПЕРШЫМ БЫЎ КАЛАНІЗАВАНЫ КАЛІМАР – ЖАМЧУЖЫНА СІСТЭМЫ ТАЙТОНА, ЗАТЫМ БЫЛІ СВЕТ БЕЗЗАКОННЯ ЧЫКАГУ, ЛЯСІСТАЯ СКА-ГАРА І МЕСЯЦЫ ВОЛАТАЎ АБРЫ І МОЎРА. ПЕРАСЯЛЕНЦЫ ДАБРАЛІСЯ НАВАТ ДА САМАЙ АДДАЛЕНАЙ І ХАЛОДНАЙ ПЛАНЕТЫ – БРАМЫ ФУРЫЙ.
ПА ПРОСЬБАХ ЖЫХАРОЎ ЦІ ПА ЗАГАДЗЕ СІЛЫ ДЖЭ'ДАЙІ ЎМЕШВАЛІСЯ Ў ЖЫЦЦЁ АСАД. АДНАК ЗА ШМАТЛІКІЯ СТАГОДДЗІ ЯНЫ ПЕРАТВАРЫЛІСЯ Ў ТАЯМНІЧЫХ ГЕРОЯЎ ЛЕГЕНД, І ЧАСЦЯКОМ ДА ІХ СТАВІЛІСЯ З АСЦЯРОГАЙ.
А ЧАСАМ І З НЕПРЫЯЗНАСЦЮ. НАШЧАДКІ ДЖЭ'ДАЙІ АСТУДЗЕЛІ ДА СВАІХ ПРОДКАЎ.
АДНЫМ З ГЭТЫХ НАШЧАДКАЎ БЫЛА ХАДЗІЯ, КАРАЛЕВА-ТЫРАНКА ЧЫКАГУ, ЯКАЯ ЎПЕРШЫНЮ АБ'ЯДНАЛА ЗЛАЧЫННЫХ БАРОНАЎ СВАЁЙ ПЛАНЕТЫ, А ЗАТЫМ ПАСПРАБАВАЛА СКАРЫЦЬ І АСАДЫ.
У СВАЁЙ ГАНАРЫСТАСЦІ ЯНА АДМОВІЛАСЯ ПАДПАРАДКОЎВАЦЦА ДЖЭ'ДАІ І "ВОЛІ СІЛЫ". ЯНА ПРЫЗНАВАЛА ТОЛЬКІ АДНУ ВОЛЮ – СВАЮ. ТАК ПАЧАЛАСЯ ВАЙНА З ТЫРАНКАЙ.


ДЗЕЦІ ДЖЭ'ДАІ ВЯРНУЛІСЯ НА ТАЙТОН, КАБ ЗАБІВАЦЬ. ВОЙСКА ТЫРАНКІ БЫЛО ШМАТЛІКАЕ, АЛЕ Ў ДЖЭ'ДАЙІ БЫЎ МАГУТНЫ САЮЗНІК – СІЛА.


ПРЫ КАЛЕЦЕ, ХРАМЕ ВЕДАЎ, ВОЙСКА КАРАЛЕВЫ ХАДЗІІ ПАТРЫВАЛА ПАРАЗУ, А САМА ЯНА БЫЛА ЗАБІТА. АЛЕ Ў КОЖНАЙ ПЕРАМОГІ ЁСЦЬ КОШТ.
МНОСТВА ВАЯРОЎ ДЖЭ'ДАЙІ АПАЛА Ў ТЫМ БАІ. ВАЯРОЎ ТЫРАНКІ ЗАГІНУЛА ЯШЧЭ БОЛЬШ. НЕКАТОРЫЯ РАНЫ Ў АДНОСІНАХ ПАМІЖ ДЖЭ'ДАЙІ І ІХ НАШЧАДКАМІ НЕ ЗАЖЫЛІ ДАГЭТУЛЬ...


ГЭТА БЫЛО ДВАНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ ТАМУ, ЯШЧЭ ДА ВАШАГА НАРАДЖЭННЯ.
НЕНАВІДЖУ КАРАЛЕВУ ХАДЗІЮ!
ЗМОЎКНІ, РЭСІ! НЯНАВІСЦЬ – ГЭТА ДРЭННА. САПРАЎДЫ, МАЙСТАР КЕТУ?
НЕ АБАВЯЗКОВА, ХАРУН. НЯНАВІСЦЬ МОЖНА ЗРАЗУМЕЦЬ, ЯК І ГНЕЎ. А ГНЕЎ МОЖНА ВЫКАРЫСТАЦЬ. ЁН ЧЫСЦІЦЬ, ЯК АГОНЬ.
АДНАК НЕЛЬГА ЗАЎСЁДЫ АДЧУВАЦЬ ТОЛЬКІ НЯНАВІСЦЬ АБО ГНЕЎ. ГЭТА ПАРУШАЕ ТВАЮ РАЎНАВАГУ.
КАРАЛЕВА ХАДЗІЯ НЕ БЫЛА ЎВАСАБЛЕННЕМ ЗЛА. ШМАТ ХТО БЫЎ ШЧЫРА АДДАНЫ ЁЙ. КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ ХАДЗІЮ, Я ПАВІНЕН ЗНАЙСЦІ ЯЕ Ў СВАІМ СЭРЦЫ, ЗРАЗУМЕЦЬ, ЧЫМ Я НА ЯЕ ПАДОБНЫ.
НУ НЕ! ЯНА НІКОЛІ НЕ СТАНЕ ЧАСТКАЙ МЯНЕ!
У СВЕЦЕ ЁСЦЬ ЦЕМРА, А Ў ЦЕМРЫ – СВЯТЛО. ТАКІМ ЧЫНАМ МЫ ЎСЕ ЎЛАДКАВАНЫ. НЕ БУДЗЬЦЕ ВЯЗНЯМІ НІ БОГАНА, НІ АШЛЫ. ІКНІЦЕСЯ ЖЫЦЬ У РАЎНАВАЗЕ. ЯК ВУЧЫЦЬ НАС САМ ТАЙТОН...
...ЖЫЦЬ ІНАЧАЙ – НЕБЯСПЕЧНА. І ГЭТА НЕБЯСПЕКА ЗАЎЖДЫ ЧАКАЕ НАС.


ТАТУИН – ПАКРЫТЫ БУЯНАЙ РАСЛІННАСЦЮ СВЕТ, ЯСНАЕ НЕБА ЯКОГА САГРАВАЮЦЬ СОНЦЫ-ДВАЙНЯТЫ. КВІТНЕЮЧАЯ ПЛАНЕТА, ДЗЕ Ў ЗІГОТКІХ ГАРАДАХ ЗБЛІЗКУ БЛАКІТНЫХ МОРАЎ ЖЫВУЦЬ МІРАЛЮБНЫЯ КУМУМГА.
АЛЕ ГЭТА БЫЛО ДА ТАГО, ЯК НЕБА ЗАХІЛІЛІ КАРАБЛІ БЯСКОНЦАЙ ІМПЕРЫІ. ДА ТАГО, ЯК ПРЫЙШЛІ РАКАТЫ.
ДЗІКУНЫ, ВОСЬ ШТО. ЦІ ТРЭБА БЫЛО СЮДЫ ЛЯЦЕЦЬ, ЗЕШ? ЦІ ТРЭБА БЫЛО ЛЯЦЕЦЬ МНЕ?
ТАК, ПРЭДАР ТУЛ'КАР.
Я НЕ АДЧУВАЮ, КАГО ТУТ МОЖНА ЗДАБЫЦЬ, АЛЕ ГЭТА І НЕ МАЯ СПРАВА. ДЛЯ ГЭТАГА Я ЦЯБЕ І ТРЫМАЮ, ЦІ НЕ ТАК, ЗЕШ?
ТАК ПРЭДАР ТУЛ'КАР.
ЯКІ З ІХ?


ГЭТЫ.
ЛАНЭЙ!
ПАЧВАРА! ГЭТА МОЙ СЫН! НАВОШТА ВЫ ЯГО ЗАБІЛІ?
А НАВОШТА ЁН НАМ? МЫ – ПЕРАМОЖЦЫ І РОБІМ ТАК, ЯК ЖАДАЕМ.
СЁННЯ ВЫ ПЕРАМОЖЦЫ, АЛЕ КУМУМГА НЕ ЗДАЮЦЦА! МЫ БУДЗЕМ ВАЯВАЦЬ, ПАКУЛЬ НЕ ПРАГОНІМ ВАС З ТАТУИНА!
НАЎРАД ЦІ, ВОСЬ ШТО.


ТЫ ДОБРА ПАПРАЦАВАЎ, ЗЕШ. ВЫЯВІЎ ПЛАНЕТУ, АДСЕЯЎ ТЫХ, ХТО АДЧУВАЕ. ДУМАЮ, ТЫ – ЛЕПШЫ СА ШНЫПАРОЎ СІЛЫ.
І ТЫ НАЛЕЖЫШ МНЕ.
ЗДОЛЬНАСЦІ ЗЕША ВЫДАТНЫ, ПРЭДАР ТУЛ'КАР...
...ДЗІЎНА, ЯК ПРЭДАР СКЕЛ'НАС ДАГЭТУЛЬ ЯГО НЕ ЗАБРАЎ.
КАБ АДНЯЦЬ ЗЕША, ПРЭДАРУ СКЕЛ'НАСУ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫКЛІКАЦЬ МЯНЕ НА БОЙ, ОРЭ'МУН. І ПРЭДАР СКЕЛ'НАС ВЕДАЕ ГЭТА.
ПРЭДАР СКЕЛ'НАС ДАСЛАЎ ПАВЕДАМЛЕННЕ. ЁН ЗАГАДВАЕ ВАМ ВЯРНУЦЦА НА БІС. Я ПАВІНЕН ЗАСТАЦЦА, КАБ КІРАВАЦЬ АДСЕВАМ.
АГХХ!


ГГХХ! Я... УСЯГО ТОЛЬКІ ПЕРАДАЎ... ЗАГАД! АГК!
ДУМАЕШ, Я ІДЫЁТ, ОРЭ'МУН? ДУМАЕШ, Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ТЫ – ШПІЁН СКЕЛ'НАСА? ДУМАЕШ, Я НЕ БАЧЫЎ, ШТО ТЫ КВАПІШСЯ НА МАЁ МЕСЦА?
ЦІ НЕ АДЧУЎ, З ЯКІМ ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ ТЫ ПЕРАДАЎ МНЕ ЗАГАД? ДУРАНЬ, ВОСЬ ШТО!
ЗАРАЗ ТАБЕ ЗРАЗУМЕЛА, ЧАМУ СКЕЛ'НАС НЕ ВЫЙДЗЕ СУПРАЦЬ МЯНЕ?
ГРААРГХ!
ПРЭДАР ТУЛ'КАР... ВЫ ВЫКАНАЕЦЕ ЗАГАД?
КАНЕШНЕ. ДЛЯ МЯНЕ СКЕЛ'НАС ТАКІ Ж ПРЭДАР, ЯК Я ДЛЯ ЦЯБЕ. ЗАГАДЫ ТРЭБА ВЫКОНВАЦЬ.
ХАЙ ЦЕЛА ПРЫГАТУЮЦЬ, ЯК МАЕ БЫЦЬ. З-ЗА ЎСЁЙ ГЭТАЙ МІТУСНІ Я ПРАГАЛАДАЎСЯ.


ГЛЫБОКАЕ ЯДРО.
ПЛАНЕТА БІС.
ГЭТЫ ЦЁМНЫ СВЕТ СТАЎ ЦЭНТРАМ УЛАДЫ БЯСКОНЦАЙ ІМПЕРЫІ. З ГЭТАГА ХРАМА-КРЭПАСЦІ РАКАТЫ ДАСЛЕДУЮЦЬ ТАЯМНІЦЫ НЕПРАХОДНАГА ГЛЫБОКАГА ЯДРА І АДКРЫВАЮЦЬ ЯГО БАГАЦЦІ.
КАМАНДНЫ ЦЭНТР – САПРАЎДНАЕ СЭРЦА ЦВЯРДЫНІ РАКАТАЎ.
СКЕЛ'НАС.


ПРЭДАР СКЕЛ'НАС, ТУЛ'КАР.
ПРЭДАР.
НАВОШТА ВЫ МЯНЕ ВЫКЛІКАЛІ? Я ЗАХАПІЎ ТАТУІН – ГЭТА БЫЛА МАЯ ПЕРАМОГА. А ЗАРАЗ ЗДАБЫВАЦЬ РАБОЎ БУДЗЕ ХТОСЬЦІ ІНШЫ?!
ЯК РАЗ-ТКІ ТЫ, ПРЭДАР ТУЛ'КАР, МНЕ І НЕ ПАТРЭБЕН. КАГО Я ЖАДАЎ БАЧЫЦЬ, ТАК ГЭТА ТВАЙГО ШНЫПАРА – ЗЕША...
...А ЁН АД ЦЯБЕ НІ НА КРОК.
МОЙ ШНЫПАР, ТРЫЛ, СЦВЯРДЖАЕ, ШТО АДЧУЛА Ў ГЛЫБОКІМ ЯДРЫ СВЕТ, НАСЫЧАНЫ СІЛАЙ. АЛЕ ЯНА НЕ МОЖА ВЫЗНАЧЫЦЬ ЯГО ДАКЛАДНЫЯ КААРДЫНАТЫ.
ЁН ТАМ, МОЙ ПРЭДАР!
ГЛЫБОКАЕ ЯДРО – ЛАБІРЫНТ, ПОЎНЫ АНАМАЛІЙ, ЯКІЯ СКАЖАЮЦЬ УСПРЫМАННЕ! ЗНАЙСЦІ Ў ІМ ПЭЎНУЮ ПЛАНЕТУ НЕМАГЧЫМА!
ГЭТА САПРАЎДЫ ТАК, ШНЫПАР ЗЕШ? НЕМАГЧЫМА?


ДЛЯ ТРИЛ – ТАК.
ІЛГУН! ХВАЛЬКО І ЛГУН! Я ЗНІМУ ТВОЙ СКАЛЬП!
VVVVVVVVVNNNN


ДОСЫЦЬ!
НАВОШТА ТАК ХУТКА СКАНЧАЦЬ ПАЯДЫНАК, ПРЭДАР? ЗАЎЧАСНА, ВОСЬ ШТО. ДУМАЮ, ЯШЧЭ ТРОХІ, І МЫ Б ПАЗНАЛІ, ЧЫЙ ШНЫПАР МАЦНЕЙ.
ФАРМАЛЬНА НІВОДНЫ З ІХ НЕ КІНУЎ ВЫКЛІК ІНШАМУ!
КАЛІ ПАМІЖ ІМІ БУДЗЕ СМЯРОТНЫ ПАЯДЫНАК, ЯГО ПРАВЯДУЦЬ ПАВОДЛЕ ПРАТАКОЛУ – І ЎБАЧЫЦЬ ЯГО ЎСЯ БЯСКОНЦАЯ ІМПЕРЫЯ!
НЕ МАГУ ДАЧАКАЦЦА.
ШНЫПАР, ТЫ НЕ АДКАЗАЎ НА МАЁ ПЫТАННЕ: ГЭТЫ СВЕТ МОЖНА ЗНАЙСЦІ?
УПЭЎНЕНЫ, ВЫ ПАМЯТАЕЦЕ ПРАТАКОЛ, ПРЭДАР СКЕЛ'НАС...



...КАЛІ ЗЕШ ЗНОЙДЗЕ ПЛАНЕТУ, ПРАВА ЗАВАЁВЫ ЗАСТАЕЦЦА ЗА МНОЙ!
ПРАТАКОЛ БУДЗЕ ВЫКАНАНЫ, ТУЛ'КАР. ПРАВА БУДЗЕ ЗА ТАБОЙ.
ТАКІМ ЧЫНАМ, ШНЫПАР, ТЫ МОЖАШ ЗНАЙСЦІ ГЭТУ ПЛАНЕТУ?
ТАК. Я МАГУ ЗНАЙСЦІ ГЭТУЮ ПЛАНЕТУ.
Я ПРЫВЯДУ ВАС ТУДЫ, І ВЫ БУДЗЕЦЕ БАЛЯВАЦЬ НА ЯЕ РЭШТКАХ.
ДАЛЕЙ: РЭШТКІ ДЖЭ'ДАЙ!?